**НАШ СУЧАСНІК у жыцці і мастацтве**

# ПА АБОЧЫНАХ

### ПРОЗА Ў ЧАСОПІСЕ «БЕЛАРУСЬ»

Паўгода — вялікі тэрмін, асабліва у наш час, калі жыццё рухаецца наперад хутка. Многа падзей адбылося ў жыцці краіны і ва ўсім свеце, пакуль выходзілі шэсць сёлетніх нумароў «Беларусі».

У артыкулах, нарысах, вершах, рэпартажах, ілюстрацыях часопіса ў пэўнай меры адбіваецца сучаснасць. А з гэтымі матэрыяламі суседкуе мастацкая проза: апавяданні, урыўкі з раманаў і аповесцей. У якой жа меры яны адлюстроўваюць наш сённяшні дзень?

Для такіх часопісаў, як «Беларусь», найбольш «зручны» жанр — апавяданне. І тут аддаюць яму перавагу.

Вось апавяданне Ус. Краўчанкі «Цяжкае вяртанне» (№ 6). Канфлікт яго жыццёвы. Вельмі цяжка вяртацца ў родны калгас Трахіму Чэчку, які ў свой час, калі справы ў сельскай гаспадарцы не ладзіліся, уцёк у горад, «развозіў сітро па гарадскіх буфетах і сталоўках». У горадзе Трахіму жылося няблага, аднак назаўсёды адарвацца ад зямлі, якую любіў, ён не здольны. Трахім едзе ў сваю вёску. Ён ведае, што яго будуць дакараць. Магчыма, нават не прымуць у калектыў. Ведае, што заслужыў гэта, але гатоў прасіць прабачэння. Ён вяртаецца са шчырым жаданнем выправіць сваю памылку сумленнай працай.

З апавядання відаць, што новы старшыня калгаса камуніст Тарас Ляшчэня ў адносінах да маласвядомых людзей карыстаецца не метадамі адміністравання, а метадамі выхавання. «Цяжкае вяртанне» — праўдзівы твор пра сутнасць адносін да чалавека ў нашым грамадстве.

Перавыхаванню маласвядомага чалавека прысвечана і апавяданне М. Лупсякова «Чалавек з эшалона» (№ 1). Аднак гэтае перавыхаванне адбываецца не ў мірны час, а ў складаных ваенных абставінах. Жорстка паплаціўся Піліп Ластоўскі за сваё маладушша—за здачу ў палон фашыстам. Толькі жахлівыя выпрабаванні прыводзяць яго да ўсведамлення, што ў жыцці нельга кіравацца аднымі ўласнымі інтарэсамі. Псіхалагічна абгрунтавана аўтар даводзіць гэта на вобразе Піліпа Ластоўскага. Хоць у аснове твора — факты часоў вайны, ён скіраваны ў сучаснасць, гучыць надзённа.

Кароткія апавяданні-замалёўкі М. Ракітнага, аб'яднаныя ў цыкл «Па дарозе» (№ 1), у меншай ступені, але таксама нясуць значную псіхалагічную і сацыяльную нагрузку. Яны сведчаць пра вострую назіральнасць аўтара, які ўмее, грунтуючыся на прыватных фактах і з'явах жыцця, рабіць трапныя абагульненні. Ён не баіцца зазірнуць у вочы горкай праўдзе, з добрасумленнасцю мастака выкрывае адмоўнае ў характарах некаторых сваіх герояў, супрацьстаўляючы ім станоўчыя вобразы. Вось, спалохаўшыся цяжкасцей, з будоўлі ўцякае хлопец («Рукі»). Потым ён зразумеў нікчэмнасць свайго ўчынку і рашыў вярнуцца. Мы ведаем, што ён сурова асудзіў свой учынак і больш ніколі не схібіць у жыцці ні перад якімі цяжкасцямі. У цыкле «Па дарозе», на наш погляд, вылучаецца апавяданне «Сідар» — пра хлопчыка-цыгана, якому надакучыла вандроўнае жыццё. Сідар хоча працаваць, але стары цыган, пры якім ён знаходзіцца, «змрочны, барадаты, з жоўта-зялёным худым тварам і з пугай на каленях», не дазваляе яму працаваць. І калі Сідар кінуўся разгружаць з машыны малако, стары пачаў бязлітасна сячы яго пугай. «Вось яна, дыялектыка, логіка часу. Стары яшчэ трымаўся свайго дзікага свету — свету журботных песень і цёмных начэй. А малады асудзіў яго яшчэ ў ранняй свядомасці і пайшоў да людзей — у сапраўднае жыццё». Аўтарскае абагульненне выходзіць за рамкі канстатацыі простага факта, набывае глыбокі сэнс, бо адлюстроўвае маральныя зрухі ў душы маладога чалавека пад уздзеяннем савецкай рэчаіснасці.

Здараецца, што пад маскай вонкава прыемных людзей хаваюцца нягоднікі, хапугі. Такіх выкрывае аўтар у апавяданні «Білет».

А вось у апавяданнях «Дзве Манькі» і «Стрэльба» М. Ракітны пайшоў па лініі простай рэгістрацыі фактаў, без якіх-небудзь абагульненняў і вывадаў. Ці трэба напамінаць, што апісанне фактаў — гэта яшчэ не мастацкі твор.

«Маленькія апавяданні» Б. Сачанкі (№ 2) не пакідаюць чытача абыякавым. Яны вызначаюцца лірычнасцю. тонкасцю адчування аўтарам прыроды і чалавечых перажыванняў. Як і ў апавяданнях М. Ракітнага, чалавек у іх «праглядаецца» хутчэй знутры, чым звонку. Тэмы для сваіх твораў Б. Сачанка бярэ пераважна сучасныя. Вось апавяданне «Пахі ранняй восені». Хлопец вяртаецца дадому пасля адбыцця тэрміну пакарання за дробнае хуліганства. Сорамна яму паказацца на вочы аднавяскоўцам, і ў яго на момант узнікае думка, ці не падацца куды-небудзь у другое месца. Але аўтар, які ў дадзеным выпадку сам з'яўляецца другой дзеючай асобай у творы, пераконвае хлопца не рабіць гэта.

У апавяданнях Б. Сачанкі адчуваецца любоў да простага чалавека, разуменне яго псіхалогіі. Але там, дзе чалавек перастае быць чалавекам, аб сімпатыях не можа ісці гутаркі. Здрадніку Антосю Міхліку з аднайменнага апавядання, які пайшоў ча службу да фашыстаў і здзекваўся з аднавяскоўцаў, аўтар выносіць справядлівы прысуд: «Сабачае было яго жыццё, сабачая і смерць».

Трэцяе апавяданне Б. Сачанкі— «Спатканні». Хлопец закахаўся ў дзяўчыну, якую бачыць толькі праз акно. Ён увесь час уздыхае, а прызнацца ў каханні не адважваецца. Пачуцці хлопца носяць адбітак, калі так можна сказаць, «сентыментальна-рыцарскі». У чытача ўзнікае сумненне у магчымасці пры такіх абставінах («спатканнях праз акно») так закахацца. Увогуле цяжка сказаць, што хацеў аўтар сцвердзіць сваім творам.

Лёгка пераканацца, што ў большасці з названых тут апавяданняў ёсць агульнае. Аўтары, нібы згаварыўшыся, бяруць адсталых, маласвядомых людзей і паказваюць іх перавыхаванне. А колькі вяртанняў у гэтых апавяданнях!.. У М. Лупсякова («Чалавек з эшалона»), ва Ус. Краўчанкі («Цяжкае вяртанне»), у М. Ракітнага («Рукі»), у Б. Сачанкі («Пахі ранняй восені») — ва ўсіх героі, адчуваючы згрызоты сумлення, вяртаюцца — хто ў вёску, хто на будоўлю. І каб не розніца ў сюжэтах, у мастацкіх асаблівасцях, у манеры весці расказ, то можна было б падумаць, што мы чытаем адну аповесць аднаго і таго ж аўтара.

Ёсць шмат агульнага ў вырашэнні тэмы і ў апавяданнях М. Ваданосава «Жаніх» (№ 3) і Ю. Лялікава «Сястра» (№ 5).

У апавяданні «Жаніх» — чатыры героі: стары бакеншчык, яго дачка Каця, Іван Андрэевіч і Хведар. Іван Андрэевіч кахае Кацю, а яна — Хведара. Бацька больш сімпатызуе Івану Андрэевічу, бо ён жа «гарадскі», «інтэлігент». Але стары не бачыць, што пад маскай знешняй «інтэлігентнасці» Івана Андрэевіча хаваецца агідны мешчанін. Гэта хутка раскусіла Каця. Яе пачуцці на баку Хведара, простага вясковага хлопца, у якога «ў руках усё нібы агнём гарыць». Нарэшце, і бацька пагаджаецца з дачкой. Гордзіеў вузел складаных пачуццяў развязаны, перамагае каханне Каці і Хведара. І гэта сімвалізуе перамогу працавітых людзей, іх прыгожых маральных якасцей над мяшчанскай псіхалогіяй, уласцівай такім людзям, як Іван Андрэевіч.

У «Сястры» Ю. Лялікава таксама славуты «трохкутнік» — раскрываюцца ўзаемаадносіны паміж Жэнькай, Валодзем і Казарынавым. Але галоўныя героі не яны, а маленькая сястра Жэнькі — Мілка. Яе вачыма і сочыць чытач за перыпетыямі складаных узаемаадносін. Мілка ўсё бачыць, за ўсім наглядае і «робіць вывады». Мілцы не падабаецца пусты, нікчэмны «стыляга» Казарынаў, які заляцаецца да яе сястры. А вось Валодзя, хоць ён і дрэнна апрануты, выклікае ў малой захапленне. Яна ўсёй душой жадае, каб Жэнька дружыла з Валодзем, а не з Казарынавым. У крытычны момант яна непрыкметна ўмешваецца ў справы сястры. Пашляк і паклоннік чужой моды Казарынаў церпіць няўдачу, а Жэнька ў сваіх пачуццях канчаткова схіляецца на бок сумленнага, сціплага Валодзі.

Ю. Лялікаву ўласціва пластычнасць у абмалёўцы вобразаў, уменне будаваць сюжэт, пранікнёнасць у псіхалогію герояў. Вобраз Мілкі — сапраўдная ўдача маладога празаіка.

З празаічных твораў пачынаючых аўтараў часопіс змясціў яшчэ кароткае апавяданне М. Бурага «Рубель» (№ 6). У ім аўтар супрацьстаўляе характары двух былых герояў-франтавікоў. Нядрэнным быў на фронце байцом Мікіта Лагацкі, смела ваяваў. Аднойчы, у цяжкім баі ён быў паранены і выратаваны Васілём Агеевым. Потым і Васіля параніла. Сябры сустрэліся ў шпіталі. Пакахалі адну медсястру, з якой ажаніўся Мікіта. А потым франтавым сябрам давялося сустрэцца ўжо ў мірны час. І выявілася, што Мікіта перарадзіўся. Працуючы шафёрам, ён на дзяржаўнай машыне зарабляе для сябе грошы і ў пагоні за рублём траціць чалавечае аблічча. Нават свайго былога сябра Васіля, якога спачатку не пазнае, ён адмаўляецца падвезці за рубель, а просіць тры. Жонка Мікіты, якая працуе на заводзе, не падзяляе яго хціваcці да грошай. А сустрэча з Васілём, відаць, прымусіць Мікіту задумацца і крытычна паглядзець на свае паводзіны.

Сатырычна-гумарыстычныя апавяданні — нярэдкія госці на старонках «Беларусі». У іх узнімаюцца тэмы этыкі і маралі савецкага чалавека, даецца бой адсталай, мяшчанскай псіхалогіі.

Актуальна гучыць апавяданне І. Грамовіча «Фінця», сатырычнае вастрыё якога накіравана супраць дармаедаў, нахлебнікаў. У сям'і настаўнікаў вырасла дачка Фінця. З маленства ёй усе гаварылі, што яна прыгажуня, ва ўсім патуралі, не прывучалі да працы. Вось і вырасла яна ні на што не здатная. Атрымала вышэйшую адукацыю, але «рана выйшла замуж і дыплом схавала ў шуфлядку». Жыве на сродкі мужа — інжынера, добрага, але мяккацелага чалавека. У наскрозь прасякнутай мяшчанскімі інтарэсамі Фінці адзінае жаданне — як мага лепш адзецца, ды так, каб быць «арыгінальнай». Яна пераймае горшыя ўзоры заходняй моды.

У такім жа духу Фінця выхоўвае і сына Броніка.

Аднак да часу, да пары «фінціла» Фінця. Муж памёр — і знікла магчымасць спраўляць «модныя» ўбранні. Каб жыць — трэба працаваць. Але як і дзе? Яна ж нічога не ўмее рабіць. А тут яшчэ старасць набліжаецца. І Фінця адчула сваю нікчэмнасць.

Псіхалогія Фінці і Броніка — вынік няправільнага, мяшчанскага выхавання, якому аўтар выносіць суровы прысуд.

Востра, з пачуццём гумару напісана сатырычнае апавяданне Л. Прокшы «Не дайшоў да кандыцыі» (№ 4) пра аматара чаркі бухгалтара Сануту. Дасціпны фельетон Ул. Корбана «На чай» (№ 5).

Як відаць з агляду, тэматыка апавяданняў часопіса вузкая, абмежаваная, людзі сённяшняга дня не знаходзяць у іх належнага паказу. Большасць апавяданняў мае дыдактычны характар. Выкрыццё адмоўнага ў жыцці і паводзінах чалавека, вядома, справа карысная, але хацелася б убачыць у цэнтры апавяданняў часопіса вобраз станоўчага героя, чалавека нашых дзён, які мог бы быць узорам для перайманя. «А іменна ж гэта станоўчае, новае і прагрэсіўнае ў жыцці,—гаварыў М. С. Хрушчоў, звяртаючыся да літаратараў, — і складае галоўнае ў рэчаіснасці сацыялістычнага грамадства, якая бурна развіваецца». На жаль, ні ў адным з названых тут апавяданняў мы не сустрэліся са спробай адлюстраваць характар перадавога чалавека. Мы не знайшлі ў іх ні герояў нашых будоўляў, ні ўдарнікаў камуністычнай працы, ні перадавікоў прамысловасці і калгаснай вытворчасці.

Карысную справу робіць часопіс, знаёмячы чытача з тым, над чым працуюць пісьменнікі ў жанрах аповесці і рамана. У лютаўскім нумары пад назвай «Грозныя гады» змешчаны ўрывак з другой кнігі рамана Ільі Гурскага «Улада Саветам» — твора, які адлюстроўвае вельмі складаны і цяжкі перыяд у гісторыі нашай краіны — перыяд барацьбы з унутранай контррэвалюцыяй і замежнай інтэрвенцыяй.

Пад назвай «Яўхім Халуста» (№ 3) А. Чарнышэвіч надрукаваў урывак са свайго рамана-хронікі «Засценак Малінаўка». Твор адлюстроўвае жыццё і быт сялян і парабкаў з панскага маёнтка Крупкі ў 1904—1907 гг.

Прыемнае ўражанне пакідае знаёмства з урыўкам з рамана І. Мележа «Людзі на балоце», які пад назвай «Постаці з цемры» змешчаны ў красавіцкім нумары часопіса. Ён прысвечаны беларускай вёсцы дваццатых гадоў.

Чытач удзячны часопісу за надрукаванне названых урыўкаў з раманаў. Аднак ці варта ўвесь час затрымліваць яго ўвагу выключна на тэмах аб мінулым?

Хочацца спадзявацца, што часопіс спаўна заплоціць свой доўг сучасніку і скажа пра яго больш выразна і гучна.

**І. ІВАНЕЦКІ.**

# КАЗКІ Алены Філімонавай-Кобец

**На пачатку дарогі**

З'яўленне ў літаратуры новага імя — прыемная з'ява. Таму ў абмеркаванні падрыхтаванай да выдання першай кнігі Алены Філімонавай-Кобец «Чараўнічыя лапцікі» прыняло ўдзел нямала нашых дзіцячых пісьменнікаў.

Гады чатыры назад я пазнаёміўся з першымі творамі маладога педагога Мінскай дзіцячай музычнай школы Алены Філімонавай-Кобец. Гэта былі мініяцюры ў вершах і прозе, пераважна недасканалыя, прымітыўныя. Аднак асобныя рэчы спынялі ўвагу непасрэднай свежасцю, новым падыходам да вырашэння тэмы. Пачынаючая пісьменніца сур'ёзна паставілася да крытычных заўваг, працягвала карпатліва і ўдумліва працаваць.

Затым прыйшлі першыя поспехі. На старонках «Вясёлкі» з'явіліся апавяданні а больш правільна — казкі: «Пеця перастаў хлусіць», «Смех і плач», «Дапытка і Цікаўка», у дзіцячых перадачах па радыё: «Няверка», «Аб тым, як Марыйка раней сонейка ўстала». У гэтых невялікіх па памеру, усяго ў сто — стопяцьдзесят радкоў, рэчах Філімонава-Кобец з сардэчнай цеплынёй размаўляла з самымі юнымі, дашкольнага ўзросту, чытачамі. Размаўляла яснай, простай мовай, без нуднай дыдактыкі і павучання. Прычым размова была сур'ёзная — на цяжкія, так званыя вечныя тэмы. Самі назвы гэтых казак гаварылі пра гэта: «Чалавек, агонь, вада», «Вецер-настаўнік», «Чытайка і Гуляйка», «Хто дужэйшы?» (зямля ці неба).

Абстрактныя паняцці ўвасабляліся ў плоць і кроў жывых, адчувальных вобразаў. З кожнай наступнай рэччу мова пісьменніцы рабілася багацейшай і больш гнуткай, думкі — глыбейшымі.

Філімонава-Кобец пачала не без поспеху спрабаваць сілы ў розных жанрах. Апроч вершаў і казак, яна напісала камедыйную п'есу.

Першая кніжка Філімонавай-Кобец гатова да выдання. Хочацца ад душы пажадаць маладой пісьменніцы смеласці і настойлівасці ў пошуках новых тэм для стварэння сучаснай дзіцячай казкі.

Добрай дарогі!

**Юрый БАГУШЭВІЧ.**

## ФАЛЬШЫВАЯ НОТА

Юлька села за піяніна і зайграла песеньку. Песенька была вельмі вясёлая. Звычайна, калі Юлька іграла яе, дык Бобік ад задавальнення віляў хвастом і нават спрабаваў падпяваць. Так было і на гэты раз. Бобік лёг каля дзвярэй і яго кароткі хвосцік весела віляў пад музыку.

Раптам над самым Юльчыным вухам нехта крыкнуў:

— Брынь!

— Ой! Што гэта?! — спалохалася Юлька і перастала іграць.

— Я, Трынькала-Брынькала! — адказаў ёй скрыпучы голас, падобны на гук разладжанай струны.

Трынькала-Брынькала пачала лётаць па ўсім пакоі і так агідна брынькаць, што Юлька зморшчылася і заткнула пальцамі вушы. А Бобік падхапіўся са свайго месца і пачаў моцна брахаць, каб заглушыць Трынькалу-Брынькалу. Бо ён жа не мог заткнуць сабе вушы.

Тады Юлька спытала:

— Трынькала-Брынькала, хто ты? І чаму я не бачу цябе?

— Ты не можаш бачыць мяне, бо я фальшывая нота, — адказала Трынькала-Брынькала.

— А як ты сюды трапіла? У мяне ж зачынены ўсе вокны і дзверы? — здзівілася Юлька.

— Я вылецела з-пад твайго пальца. Ты тройчы памылілася на адным і тым жа месцы, калі іграла. І цяпер я ажыла і буду надакучаць табе. Брынь! Брынь! Брынь!..

Юлька зноў заткнула вушы, а Бобік моцна забрахаў.

Тады Юлька сказала:

— Цяпер я ведаю, як ад цябе пазбавіцца, — і зноў зайграла песеньку.

На гэты раз Юлька іграла так уважліва, што не зрабіла ніводнай памылкі. І Трынькала-Брынькала змоўкла. А Бобік лёг на сваё месца каля дзвярэй і глядзеў на Юльку, як на пераможцу.

## ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗЫ

Жыла ў лесе Зязюля. Яна была лянівая і бесклапотная. Ад самага рання да вечара лётала па лесе і лавіла калматых вусеняў. А іншы раз прыляціць да ляснога ручая, сядзе на галінку і глядзіцца ў ваду, бы ў тое люстэрка: налюбавацца на сябе не можа. Нават яйка падкінула ў чужое гняздо, бо ленавалася сваё звіць.

Прайшло шмат часу. Зязюля пастарэла. Цяжка стала ёй вусеняў лавіць. І паляцела яна да чужога гнязда, куды некалі яйка падкінула. А ў тым гняздзе Малінаўка сядзела. Зязюля ў яе і пытае:

— Ці не ведаеш, дзе маё птушанятка? Я ўжо старая, і мне цяжка адной вусеняў лавіць...

І расказала Малінаўка, як яна ўзгадавала Зязюльчына птушаня. А калі яно стала дужым, то паляцела ад яе назаўсёды. А куды? Невядома.

Паляцела Зязюлька шукаць сваё птушаня. Ды так і не знайшла.

Па гэты дзень шукае.

— Ку-ку! Ку-ку! — кліча Зязюля і плача.

І слёзы яе капаюць на зямлю. А на тым месцы, дзе яны падаюць, вырастае траўка. І завуць усе гэтую траўку «Зязюльчыны слёзы».

**Падзеі, факты, навіны**

□ **У Гродна прайшлі канцэрты сімфанічнага аркестра Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Музычную праграму склалі творы рускіх, заходне-еўрапейскіх і савецкіх кампазітараў.**

**Працягваючы летнія гастролі па гарадах рэспублікі, калектыў аркестра выступіць таксама ў Брэсце, перад будаўнікамі Бярозаўскай ДРЭС, працаўнікамі калгасных палёў.**

□ **З поспехам выступіў калектыў духавога аркестра штаба Беларускай ваеннай акругі ў зялёным тэатры Цэнтральнага дзіцячага парку імя Горкага, на імправізаванай канцэртнай эстрадзе Мінскага мора, перад воінамі мінскага гарнізона.**

□ **Да працаўнікоў калгасных палёў Капыльшчыны прыехалі салісты і секстэт домр Беларускага радыё і тэлебачання. Слухачы надзвычай цёпла сустрэлі выступленні вядомых беларускіх спевакоў — М. Марозавай, В. Прышчапёнка, Ю. Смірнова, заслужанай артысткі рэспублікі В. Фурс, якія выканалі шэраг вакальных твораў беларускіх і савецкіх кампазітараў, песні народаў Саюза ССР і краін сацыялізма.**

□ **У Барысаве, Оршы, Мінску, Бабруйску, Слуцку адбыліся выступленні групы артыстаў маскоўскай эстрады пры ўдзеле італьянскага спевака Гаульцiера Мізіна.**

□ **Днямі жыхароў гарадскога пасёлка Хойнікі наведалі артысты Гомельскага абласнога драматычнага тэатра. Яны паказалі камедыю «Сярэбранае вяселле» Ц. Саладара. У спектаклі ўдзельнічалі артысты Э. Цурбакоў, Л. Гамуліна, А. Каменскі і іншыя.**

**Цёпла сустрэлі артыстаў хлебаробы саўгаса «Суднова», калгаса імя XXI з'езда КПСС, дзе яны выступілі са спектаклямі.**

**З кінакамерай па рэспубліцы**

**Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў выпусціла на экраны кінатэатраў рэспублікі чарговы, дзевятнаццаты нумар кіначасопіса «Савецкая Беларусь», першы сюжэт якога прысвечаны святкаванню Дня савецкай моладзі ў Мінску.**

**На Мінскім трактарным заводзе хвалюючая, радасная падзея: з канвеера сышоў двухсоттысячны трактар. Сваю перамогу калектыў трактаразаводцаў прысвяціў XXII з'езду партыі. Пра гэта і расказана ў другім сюжэце кіначасопіса.**

**З вялікай цікавасцю будуць прагледжаны кінакадры, знятыя ў сельгасарцелі імя Сталіна Брэсцкай вобласці, куды нядаўна прыязджала з суседняга калгаса, каб падзяліцца з жывёлаводамі сваім вопытам, знатная даярка Герой Сацыялістычнай Працы Л. Асіюк.**

**Сюжэт «Рэха вайны» прысвечаны савецкім воінам, іх бяспрыкладнай мужнасці, якую яны праявілі пры знішчэнні пакінутых ворагам у час Вялікай Айчыннай вайны снарадаў і мін.**

**Убачаць гледачы кінарэпартаж аб матчы дружбы паміж валейбалістамі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Беларускай ССР. У заключэнне часопіса расказваецца аб гістарычных і архітэктурных помніках сталіцы братняй Эстоніі — Таліна.**

# Надзённае выданне

Вось ужо каля двух год Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпускае бібліятэчку атэіста. Яна з'явілася надзвычай карысным дапаможнікам для лектараў, дакладчыкаў, прапагандыстаў, якія праводзяць сярод насельніцтва навукова-атэістычную работу. Нядаўна бібліятэка папоўнілася новымі кніжкамі. Гэта два зборнікі антырэлігійных п'ес, вершаў, баек, фельетонаў і брашура В. Вінаградава «Выяўленчае мастацтва ў барацьбе з рэлігіяй».

Вопыт навукова-атэістычнай работы сярод веруючых паказвае, як неабходны для гутаркі, лекцыі, даклада слова пісьменніка, таленавітая карціна мастака. Не кожны атэіст можа самастойна знайсці патрэбны яму матэрыял, тым больш неабходным з'яўляецца выхад у свет названых кніжак.

Вось перад намі зборнік антырэлігійных вершаў, баек і фельетонаў «Бог і людзі». Ён невялікі па памеру, але колькі ў ім трапных, я сказаў бы, прамых пападанняў у тых, хто, прыкрываючыся рэлігіяй як шырмай, працягвае адурманьваць людзей, перашкаджае ім удзельнічаць у актыўнай барацьбе за камунізм.

Пачынаецца зборнік вершам С. Гаўрусёва «Сцяг на Месяцы». У ім паэт гнеўна выкрывае Ватыкан і яго верных паслугачоў, якія ў сучасны момант, як і іх папярэднікі шмат стагоддзяў назад, ашукваюць народ, спасылаючыся на ўсемагутнага бога. Паэт гром-ка заяўляе, што ім не ўдасца патушыць творчы геній чалавека, які

Сваёю воляй, пад сваёй каметай,
Што азарала дзёрзкі след.
Імклівай міжпланетнаю ракетай
Узвіўся ў неразгаданы сусвет.

І менавіта савецкі чалавек, камуніст, перакананы атэіст «сваёй рукой да Месяца дакінуў савецкі молат і савецкі серп».

Фарысейства палітычных дзеячоў капіталістычных краін, якія імкнуцца апраўдаць свае агрэсіўныя планы «воляй божай», раскрывае В. Маеўскі ў вершы «Набожны Джон». Выкрыццю забабонаў сярод некаторых маладых людзей прысвяціў свае слова паэт Н. Гілевіч.

Востра адгукаюцца на хвалюючыя тэмы сучаснасці паэты А. Зарыцкі, К. Кірыенка, Ул. Корбан.

Газеты паведамілі, што ў Турцыю накіравалася амерыканская «навуковая» экспедыцыя, нібыта для пошукаў Ноева каўчэга, аб якім расказваецца ў біблейскай легендзе. І паэт М. Лужанін не мог прайсці міма гэтага сапраўды жульніцкага кроку амерыканскіх псеўдавучоных. З гэтага повраду паэт піша верш «Ноеў каўчэг», які змешчан у зборніку. У ім М. Лужанін ускрывае сапраўдную прычыну дзеянняў амерыканскіх шарлатанаў, якія звілі сабе цёплае гняздо ў краінах капіталу і імкнуцца адцягнуць увагу працоўных ад забастовак, ад барацьбы за дэмакратыю, за свае правы, накіраваць іх на хлуслівы рэлігійны шлях. Паэт пераконана заяўляе:

Нічога ўсё роўна вы не
адшукаеце,
Нікога ўсё роўна вы не
ашукаеце.

Не пойдуць народы ў Ноеў каўчэг:

Не пойдуць! Пастануць
яны, як браты,
Пад зорку,
Пад серп, пакрыжаваны
з молатам.
Падпальшчыкі! Вас не
ўратуюць тады
Не толькі каўчэгі, а нават
дрэдноуты.

Аб выкарыстанні твораў выяўленчага мастацтва ў антырэлігійнай прапагандзе гаворыцца ў брашуры В. Вінаградава. У ёй аўтар раіць шмат цікавых форм работы: дэманстрацыю карцін у час чытання лекцый, дакладаў, правядзення гутарак, вечароў пытанняў і адказаў, тэматычных вечароў «Мастацтва і рэлігія», стварэнне «малых трэцьяковак» — выставак рэпрадукцый карцін на антырэлігійныя тэмы В. Пярова, І. Рэпіна, Н. Неўрава, В. Пукірава, К. Савіцкага і іншых вядомых мастакоў-рэалістаў, арганізацыю выставак антырэлігійных кніг, бібліятэчак-перасовак з навукова-атэістычнай літаратурай.

В. Вінаградаў не толькі раіць тыя або іншыя формы выкарыстання мастацтва ў барацьбе з рэлігіяй, але і расказвае, якім чынам лепш арганізаваць тое ці іншае мерапрыемства. Пры гэтым аўтар спасылаецца на канкрэтныя прыклады з дзейнасці атэістаў Віцебскай вобласці. Гэта надае брашуры асаблівую пераканаўчасць.

В. Вінаградаў многа ўвагі аддае канкрэтнаму разгляду некаторых выдатных антырэлігійных карцін вялікіх мастакоў мінулага. Тым самым аўтар дапамагае лектару, які дэманструе рэпрадукцыі карцін веруючым, падкрэсліваць, што передавыя людзі, вядомыя мастакі Расіі, шмат год назад зразумелі і раскрылі ў сваіх працах класавую сутнасць рэлігіі. Гнеўна выкрываючы і высмейваючы норавы духавенства, яны сродкамі выяўленчага мастацтва пераканаўча паказалі маральную разбэшчанасць царкоўнікаў, іх выдумкі пра «цуды», іх крывадушнасць, прадажнасць. Палітычная накіраванасць, выкрывальны сэнс гэтых карцін не страцілі свайго значэння і па сённяшні дзень. Таму надзвычай важна выкарыстаць гэтыя антырэлігійныя творы для атэістычнага выхавання працоўных, паказаць, як з даўніх часоў царква імкнулася служыць багатым, як здзеквалася яна з лепшых пачуццяў простага чалавека, змагалася супраць новага і прагрэсіўнага.

Добрым матэрыялам для многіх народных тэатраў і гурткоў мастацкай самадзейнасці з'явяцца новыя антырэлігійныя п'есы Ул. Няфёда «Жыць на гэтым свеце!», «Браты ва Хрысце», П. Данілава «Дзівосы на калёсах» і А. Махнача і М. Бярэзінскага «Дзе чорт умяшаецца», якія выдадзены асобным зборнікам «Антырэлігійныя п'есы». Яны выкрываюць сапраўднае аблічча сектантаў, а таксама шкоднасць рэлігійных перажыткаў. Напісаны п'есы папулярна з выкарыстаннем трагікамічных палажэнняў. Нашы самадзейныя артысты і ў далейшым чакаюць ад беларускіх драматургаў разнастайных, цікавых аднаактовых п'ес атэістычнага зместу.

У свой час Ул. І. Ленін, надаючы вялікае значэнне выхаванню ў народа матэрыялістычнага светапогляду, падкрэсліваў, што рэлігійныя перажыткі адносяцца да катэгорыі найбольш жывучых, іх найбольш цяжка выкараніць. Таму ён раіў атэістам падыходзіць да веруючых надзвычай чула, тонка, пераконваць іх у шкоднасці рэлігіі, як ён гаварыў «і так, і гэтак». Гэтая ленінская парада ўлічана стваральнікамі серыі бібліятэчкі атэіста. Калі ў ранейшых кніжках серыі выступалі вучоныя, прапагандысты, лектары, а таксама людзі, што парвалі з рэлігіяй, якія на багатым навуковым і фактычным матэрыяле выкрывалі шкоднасць рэлігіі, то цяпер выдавецтва прадаставіла слова беларускім паэтам, сатырыкам, драматургам, мастацтвазнаўцам. І ад гэтага будзе толькі карысць!

**Л. ГАЛІНІН.**

# НА ЭКРАНАХ У ЖНІЎНІ

Цікавую каляровую мастацкую кінааповесць «Лясная песня», якую стварыў рэжысёр Віктар Іўчанка па аднаіменнай драме-феерыі Лесі Украінкі, выпускае на экраны Кіеўская кінастудыя імя Даўжэнкі.

У «Лясной песні» паэтэса раскрыла цудоўны свет украінскага фальклору, чароўнасць роднай прыроды, прыгажосць душы чалавека і яго пачуццяў. Нягледзячы на трагічны фінал, карціна глыбока аптымістычная. У ёй перамагае жыццё, вера ў чалавека, у тое, што сапраўднае вялікае каханне бессмяротнае, як само жыццё.

Больш сарака год назад упершыню з'явілася аповесць «Чырвоныя ветразі» Аляксандра Грына— чалавека, які прайшоў складаны і нялёгкі шлях.

Цяпер на кінастудыі «Масфільм» па матывах гэтай аповесці пастаўлена каляровая аднайменная шырокаэкранная карціна.

У жніўні гледачы здолеюць пазнаёміцца з шырокаэкранным мастацкім фільмам «Любушка», створаным на кінастудыі «Масфільм» (рэжысёр Ул. Каплуноўскі). Карціна прысвечана першым паслярэвалюцыйным гадам. У вобразе селяніна Мікіты Лыкава аўтары фільма паказалі, як шырока насустрач цудоўнаму адкрыта сэрца звычайнага рускага чалавека.

У XVII—XVIII стагоддзях пачаўся крызіс феадальных адносін у Карэі. У абстаноўцы нарастання сялянскіх паўстанняў XVIII стагоддзя з'явіўся выдатны ананімны раман «Чун Хян чжон», які паказвае жыццё ўсіх слаёў грамадства за перыяд з 1675—1730 г.г. Вострае асуджэнне феадальнага зла, абарона правоў народа, глыбокі аптымізм, праўдзівасць у абмалёўцы цэнтральнага вобраза гераічнай дзяўчыны Чун Хян вызначаюць гэты раман, як адзін з лепшых твораў карэйскай класічнай літаратуры.

Каляровы мастацкі фільм «Сказанне аб Чун Хян» з'яўляецца экранізацыяй гэтага выдатнага твора.

У жніўні на экранах рэспублікі будуць дэманстравацца таксама замежныя фільмы: венгерскі — «Тры зоркі», чэхаславацкі —«Скоры да Астравы», югаслаўскі — «Старшыня — цэнтр нападу», аўстрыйскі — «Чароўнае рэвю», фільм вытворчасці кінастудыі «ДЭФА» (ГДР) — «Гадзіна выпрабаванняў» і іншыя.

Многа цікавага раскажуць гледачам новыя хранікальна-дакументальныя і навукова-папулярныя кінакарціны.

**Н. КУЗЬМІЦКАЯ.**

Кадр з фільма «Лясная песня».

Кадр з фільма «Сказанне аб Чун Хян».

# СТО РАБОТ
## СЕЛЬСКАГА САМАДЗЕЙНАГА СКУЛЬПТАРА

... На ўзлеску, ля перабітай артылерыйскім снарадам сасны, стаіць група беларускіх партызан з аўтаматамі на грудзях. Позірк народных мсціўцаў накіраваны ў зорнае неба, у якім ледзь відаць, як адлятае савецкі транспартны самалёт. Ён даставіў з «Вялікай зямлі» пісьмы, газеты, боепрыпасы і медыкаменты. Людзі ветліва махаюць рукамі адлятаючай за гарызонт серабрыстай птушцы, пасылаючы прывітанне далёкай, але роднай і блізкай сэрцу Маскве. Такую карціну па-майстэрску выразаў з дрэва калгаснік сельгасарцелі «Кастрычнік» Гродзенскага раёна С. Бык.

Народны ўмельца з'яўляецца аўтарам многіх твораў. Ён стварыў партрэт Ул. І. Леніна, а таксама скульптуру вядомага лінгвіста акадэміка Е. Ф. Карскага.

Высокую ацэнку журы на абласных і рэспубліканскіх выстаўках выяўленчага і прыкладнога мастацтва атрымалі работы С. Быка «Свету — мір!», «Мацярынства», «Афрыка рве ланцугі каланіялізму», «Тры пакаленні», «Зубры».

Мастак чэрпае тэмы для сваіх работ з навакольнага жыцця. Даведаўшыся аб тым, што даярцы суседняга саўгаса «Свіслач» Марыі Занеўскай прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы, скульптар-самавучка пабываў некалькі разоў у гэтай гаспадарцы. Ён доўга наглядаў, як працуе М. Занеўская. Так нарадзілася скульптура «За вялікае малако». Працоўнаму гераізму сваіх аднавяскоўцаў С. Бык прысвяціў творы: «Шчасце калгаснай працы», «На веснавой сяўбе», «Птушніца».

Скульптар захапляецца і жывапісам. Яго карціны «Бярозавы гай», «На беразе Нёмана», «Яблыні цвітуць» атрымалі добрую ацэнку прафесіянальных мастакоў.

— Усе мае думкі, — гаворыць народны разбяр, — заняты цяпер скульптурай першага ў свеце касманаўта Юрыя Гагарына. Ужо зроблен эскіз будучай работы. Фігура Юрыя Аляксеевіча і корпус карабля «Усход» будуць выразаны з двухметровага кавалка клёну. Думаю адлюстраваць момант, калі Ю. Гагарын перад палётам у космас развітваецца з таварышамі.

За апошні час С. Бык стварыў больш ста розных твораў. За майстэрскае выкананне і развіццё савецкага выяўленчага і прыкладнога мастацтва самадзейны разбяр узнагароджан Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і дзвюма граматамі Міністэрства культуры Беларускай ССР.

